*Інфармацыя Аналітыка Публіцыстыка*

***№42 кастрычнік 2014***

# ПРЭЗУМПЦЫЯ

***Гарадзенскі праваабарончы інфармацыйна-аналітычны бюлетэнь***

# У Гародні праваабаронцы правялі кампанію супраць смяротнага пакарання




**5 кастрычніка гарадзенскія праваабаронцы падтрымалі агульнабеларускую акцыю “Тыдзень супраць смяротнага пакарання”, абвешчаную Праваабарончым Цэнтрам “Вясна”. Беларусь адзіная ў Еўропе краіна, дзе практыкуюць смяротнае пакаранне. Таму гэтая тэма для праваабаронцаў вельмі актуальная. Вельмі важным ёсць не толькі штодзённая праца ў гэтым кірунку, але і такія масавыя публічныя акцыі, якія абвастраюць у свядомасці грамадства тэму забойства чалавека дзяржавай. Гарадзенскія праваабаронцы назвалі сваю акцыю “Гародня супраць смяротнага пакарання”.**

## У Гароднi не даюць збiраць подпiсы



Увечары 2 кастрычніка ў Гародні міліцыяй быў затрыманы грамадска-палітычны актывіст Ежы Грыгенча. Як удзельнік кампаніі “Гавару праўду” ён збіраў подпісы грамадзянаў за пытанні Народнага рэферэндуму. Аднаму з жыхароў, да каго ў кватэру завітаў Грыгенча, падпісныя лісты падаліся падазронымі і той выклікаў міліцыю. Ежы Грыгенчу завезлі ў Ленінскі РАУС, дзе трымалі тры гадзіны. Туды ж прыехаў Зміцер Бандарчук, рэгіянальны каардынатар кампаніі “Гавары праўду”. Урэшце Ежы Грыгенчу адпусцілі, пакуль без складання пратаколу пра адміністрацыйнае правапарушэнне. Але падпісныя лісты забралі нібыта на экспертызу.

## У Гароднi затрыманыя за прэзентацыю кнiгi



У Гародні затрыманы пісьменнік Віктар Марціновіч падчас прэзентацыі свойго новага раману “Мова”. Прэзентацыя была наладжана ў Парафіяльным цэнтры парафіі Маці Божай Фацімскай.

Як паведаміў удзельнік прэзентацыі Алесь Кіркевіч:

- У будынку прысутнічаюць прадстаўнікі гарвыканкама, МЧС, міліцыі. Каля будынку ёсць супрацоўнікі КДБ. І зараз бяруцца апытанні і складаюцца пратаколы апытанняў на грэка-каталіцкага святара айца Андрэя Крата, на Міраслава Лазоўскага, прадстаўніка выдавецтва “Беларускі кнігазбор”, і на Віктара Марціновіча.

Святара айца Андрэя Крата, прадстаўніка выдавецтва “Беларускі кнігазбор” Міраслава Лазоўскага і пісьменніка Віктара Марціновіча абвінавачваюць у арганізацыі несанкцыянаванага мерапрыемства.

## Гарадзенскія журналісты атрымалі адказы з пракуратураў

Гарадзенскія журналісты дачакаліся адказаў з абедзвюх пракуратураў. Два дзесяткі гарадзенскіх сяброў БАЖ высылалі лісты ў Генеральную і Гарадзенскую абласную пракуратуры, у якіх звярталі ўвагу на недапушчальнасць пераследу журналістаў-фрылансераў за прафесійную дзейнасць. У лісце прыводзіліся факты пераследу журналістаў з Гарадзеншчыны за супрацу з Беларускім Радыё Рацыя і тэлеканалам Белсат і ўказвалася на незаконнае прымяненне артыкулу Адміністрацыйнага кодэксу, паводле якога журналісты штрафаваліся рознымі судамі Гарадзенскай вобласці.

Першай журналістам адказала Генеральная пракуратура за подпісам яе прадстаўніцы Марыі Паповай, начальніка аддзелу па нагляду за захаваннем правоў і свабод грамадзянаў. Генеральная пракуратура прапаноўвае самастойна звяртацца ў пракуратуру і суды вышэйшай інстанцыі.

Днямі гарадзенскія журналісты атрымалі афіцыйны адказ і з абласной пракуратуры. У ім за подпісам намесніка пракурора вобласці Святланы Рахман практычна дублюецца адказ Генеральнай пракуратуры. Гарадзенскія сябры БАЖ расцэньваюць такія адказы як ухіленне пракуратураў ад забеспячэння іх права на прафесійную журналісцкую дзейнасць.

## Гарадзенскі абласны суд не задаволіў касацыйную скаргу журналіста



Разгляд касацыйнай скаргі журналіста-фрылансера Андрэя Мялешкі ў Гарадзенскім абласным судзе скончыўся прадказальна. Нягледзячы на ўсе довады аштрафаванага і аргументы ягонага адваката, суддзя Святлана Даўгашэй падтрымала рашэнне Гарадзенскага раённага суду.

Абарона пакаранага журналіста грунтавалася найперш на тым, што ў матэрыялах адміністрацыйнай справы няма ніякіх доказаў здзяйснення ім правапарушэння. Напомнім, што 7 кастрычніка суддзя Ганна Лявусік не ўзяла пад увагу ні парушэнні і юрыдычную непісьменнасць з боку міліцыі, ні поўную адсутнасць доказаў віны Андрэя Мялешкі, ні неадпаведнасць адміністрацыйнага артыкулу сутнасці рэчаў і пакарала незалежнага журналіста адміністрацыйным штрафам – 35 базавых велічыняў.

# Спраўджаная місія.
## *Памяці Віктара Дзесяціка*

***Няма больш з намі Віктара Дзесяціка, шчырага адданага беларускай справе патрыёта, актыўнага няўрымслівага грамадскага руплiўца. Традыцыйны штогадовы фэст у Свіслачы і Якушоўцы – Дзень памяці паўстанцаў 1863 году, які адбываўся сёлета ў нядзелю 26 кастрычніка – у светлы восеньскі дзень быў ахутаны для ўсіх прыехаўшых і прыйшоўшых сумам. Грамадская супольнасць Свіслачы зазнала вялізную страту. Віктар Дзесяцік рыхтаваў і гэты чарговы фэст, але не дажыў да яго. Цяжкі інсульт падпільнаваў яго ў 55 год, а ўсім нам здавалася, што гэты энергічны чалавек яшчэ шмат чаго паспее і зробіць. Нехта нібыта адмыслова падгадаў дзень пахавання гэтага чалавека да Дня памяці Герояў.***

Віктар Дзесяцік… Дбайны гаспадар і адказны бацька, сапраўдны сем'янін і надзейны сябра. Ніколі не шкадаваў свайго часу, сілаў і асабістых сродкаў на грамадскія справы, даводзіў іх да канца. Чалавек – аголены нэрв, вельмі востра перажываў несправядлівасць, якой так шмат у нашай краіне. Напэўна і таму яго арганізм не вытрываў напругі. Ня меў вышэйшай адукацыі, але меў вельмі дасціпны розум, цікавіўся тэхнічнымі навінкамі, цэлы час насіўся з нейкімі кампутарнымі праграмамі, прапаноўваў іх усталяваць іншым. У яго фэйсбуку так і застанецца застаўка “Свабоду палітвязням!” – Віктар Дзесяцік з сябрамі неаднаразова праводзіў не толькі памятныя, але і праваабарончыя акцыі салідарнасці ў сваім горадзе.

Дзень Герояў сёлета прайшоў як звычайна годна, прыехаўшыя з розных мясцовасцяў Гарадзеншчыны, Берасцейшчыны, Менску людзі пабылі на паніхідзе ў праваслаўнай царкве, правялі ў апошні шлях Віктар Дзесяціка, якога накрылі бел-чырвона-белым сцягам, усклалі кветкі, запалілі знічы і паставілі іх ля помнікаў нацыянальных герояў, наведалі Якушоўку – былы фальварак роду Каліноўскіх. У гэты сонечны дзень лунала некалькі нацыянальных сцягоў.



Дзень памяці паўстанцаў прайшоў як звычайна і так, як не павінна быць. Улады зноў нагналі процьму міліцыянтаў, людзі ў цывільным сядзелі па ўсім перыметры цэнтральнай плошчы ў Свіслачы, “камітэтчыкі” лезлі з відэакамерамі і фотаапаратамі проста ў твар прыехаўшым людзям. Добра яшчэ, што на гэты раз у іх хапіла розуму нікога не затрымліваць і арыштоўваць.

Віктар Дзесяцік быў сапраўды чалавекам паграніччa, часта ездзіў на Беласточчыну, марыў пра хутчэйшыя ўводзіны малога памежнага руху і ўвогуле ліквідацыю штучнай мяжы паміж Беларуссю і Еўропай. Вазіў у сваю родную Свіслач газеты “Ніва”, аднойчы на мытні ў яго забралі некалькі дзесяткаў выдання. Улады таксама штрафавалі, цкавалі яго за акцыі памяці, а ён рэзка адказваў мясцовым прыслужнікам рэжыму, якія толькі хавалі вочы і маўчалі.

Пахаваны Віктар Дзесяцік паблізу праваслаўнай царквы, побач з сваім бацькам, дзе помнік з напісам па-беларуску. Зусім недалёка і магіла іншага Віктара – Каліноўскага, ідэолага вызвольнага руху, з якой у фэст звычайна пачынаецца ўшанаванне нашых патрыётаў дзевятнаццатага стагоддзя. Віктар Дзесяцік таксама выступаў за праўду і адраджэнне нацыянальнай годнасці. Відаць, гэта вышэйшая місія чалавека на гэтым свеце – быць за праўду. Наш сябра за сваё нядоўгае жыццё гэтую місію паспеў рэалізаваць. Ушаноўваючы памяць продкаў, ён заслужыў і права, каб памяталі яго. І так у Свіслачы будзе, бо час усё фільтруе і расстаўляе праўдзівыя адзнакі.

*Уладзімір Хільмановіч*

# Хроніка правапарушэнняў

## (Гарадзеншчына, чэрвень - кастрычнік)

***У пачатку ліпеня былога палітвязня Мікалая Аўтуховіча,за якім усталяваны прэвентыўны нагляд, другі раз не выпусцілі ў Менск для медабследавання. У красавіку Мікалай Аўтуховіч ужо падаваў заяву па дазвол на выезд у Менск, але таксама атрымаў адмову.***

**Сябра слонімскай суполкі БХД Іван Бедка падаў заяўку на правядзенне пікета ў Слонімскі райвыканкам. Пікет павінен быў прыцягнуць увагу насельніцтва да праблемаў празмернага ўжывання алкаголю і тытуню на Слонімшчыне. За подпісам старшыні Слонімскага райвыканкама Алега Таргонскага быў атрыманы адмоўны адказ.**

***Гарадзенскі журналіст-фрылансер Віктар Парфёненка, які супрацуе з Беларускім Радыё Рацыя, працягвае змагацца з бюракратызмам чыноўнікаў. За апошнія гады ён ужо 6 разоў падаваў паперы ў Міністэрства замежных спраў Беларусі на афіцыйную акрэдытацыю і кожны раз атрымліваў бюракратычныя адмовы. Парфёненка накіраваў скаргу на МЗС і ў ліпені атрымаў на яе адпіску з Савету міністраў, які скіраваў яе на разгляд у… МЗС.***

**22 ліпеня** старшыня гарадзенскай гарадской арганізацыі АГП Ежы Грыгенча паслаў скаргу ў Камітэт па правах чалавека. Гарадзенскі актывіст нязгодны з рашэннем Ленінскага суда Гародні, які пад старшынствам суддзі Алены Пятровай аштрафаваў яго за актыўны ўдзел у масавым мерапрыемстве. Нагадаем, што Ежы Грыгенча разам з чатырма ўдзельнікамі перадвыбарчага пікету былі асуджаныя за актыўны ўдзел у нібыта несанкцыянаваным мерапрыемстве.

**24 ліпеня** ў Гарадзенскім абласным судзе разглядалася скарга гарадзенскага журналіста Беларускага Радыё Рацыя Андрэя Мялешкі на рашэнне Кастрычніцкага раённага суда Гародні, які прызнаў яго вінаватым ў вырабе прадукцыі, як неакрэдытаванага журналіста што працуе на замежныя СМІ. Усяго



дзесяць хвілін спатрэбілася суддзю Аляксею Цвяткову каб разгледзець ўсе тонкасці і нюансы справы і не задаволіць скаргу Андрэя Мялешкі.

***Грамадскія актывісты гораду Бярозаўка, што ў Лідскім раёне, імкнуцца чарговы раз зарэгістраваць новае грамадскае згуртаванне – культурна-асветніцкае аб'яднанне "Спадчына". Адзін з ініцыятараў стварэння новай грамадскай арганізацыі Сяргей Трафімчык у жніўні падаў на рэгістрацыю дакументы ва ўпраўленне юстыцыі аблвыканкаму.***

**Пракурор Ваўкавыскага раёна ў забароне міліцыі на выезд былога палітвязня на лячэнне ў Менск парушэнняў не ўгледзеў. У сувязі з гэтым Мікалай Аўтуховіч падрыхтаваў скаргу на імя пракурора Гарадзенскай вобласці.**

***Актывісты па стварэнні беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі ў Гарадзенскай вобласці атрымалі 13 адмоваў з 13 заявак на правядзенне інфармацыйных пікетаў у розных гарадах. Тэматыка заяўленых пікетаў была наступная – інфармаванне насельніцтва пра праблемы ўсталявання малога памежнага руху. Цікава, што ўсе заяўкі на розныя дні былі пададзеныя адным чалавекам – грамадска-палітычным актывістам Анатолем Макаравым.***

**7 верасня** па палітычных прычынах у Лідзе было адкладзена ўрачыстае адкрыццё шыльды Канстанціну Астрожскаму на будынку праваслаўнай царквы.

У Гародні **19 верасня** міліцыя затрымала грамадскую актывістку Вольгу Крапоціну. Затрыманне адбылося ў цэнтры гораду каля гандлёвага цэнтру "Баторыя". У Вольгі Крапоцінай забралі 17 улётак з тэкстам "Вярніце Крым Украіне", а яе саму павезлі ў аддзяленне міліцыі па вуліцы Гараднічанскай. Вольгу Крапоціну чакалі дзве гадзіны, за гэты час міліцыянты склалі пратакол яе апытання.

***Гарадзенскаму журналісту-фрылансеру Віктару Парфёненку, які супрацуе з Беларускім Радыё Рацыя, чарговы раз адмовілі ў акрэдытацыі як карэспандэнту. Не дачакаўшыся пісьмовага адказу ад чыноўнікаў журналіст патэлефанаваў у МЗС Беларусі, дзе яму паведамілі, што яго заяўка зноў не задаволена. Парфёненка запатрабаваў каб яму пісьмова даслалі гэтую адмову, як належыць паводле заканадаўства.***

Грамадская актывістка з Гародні Вольга Крапоціна накіравала заяву на імя начальніка раённага аддзелу унутраных спраў Ленінскага раёну Васіля Найдзенкі ў якой просіць вярнуць незаконна забраныя ў яе інтэрнацкім пакоі супрацоўнікамі міліцыі рэчы – ноўт-бук і дзве флэш-карткі памяці. Міліцыянты забралі гэтыя рэчы, не пакінуўшы ніякай пра тое паперы, незразумела на якіх юрыдычных падставах.

***Гарадзенскія ўлады працягваюць пераследаваць незалежнага журналіста Андрэя Мялешку. На гэты раз адміністрацыйную справу – зноў паводле артыкулу 22.9 – частка 2 супраць фрылансера пачаў суд Гарадзенскага раёну. Андрэя Мялешку вінавацяць у незаконным вырабе і распаўсюдзе інфармацыі.***

# Хроніка правапарушэнняў

## (Гарадзеншчына, чэрвень - кастрычнік)

**2 кастрычніка** ў Гарадзенскім раённым судзе пачаўся судовы працэс па адміністрацыйнай справе журналіста-фрылансера Андрэя Мялешкі. Яго вінавацяць у незаконным вырабе і распаўсюдзе інфармацыі паводле артыкулу 22.9 – частка 2. Пачатак судовага разгляду, які вядзе суддзя Ганна Лявусік, доўжыўся толькі 5 хвілін.

Увечары **2 кастрычніка** ў Гародні міліцыяй быў затрыманы грамадска-палітычны актывіст Ежы Грыгенча. Як удзельнік кампаніі “Гавару праўду” ён збіраў подпісы грамадзянаў за пытанні Народнага рэферэндуму. Аднаму з жыхароў, да каго ў кватэру завітаў Грыгенча, падпісныя лісты падаліся падазронымі і той выклікаў міліцыю. Актывіста затрымалі і праз 3 гадзіны адпусцілі без складання пратаколу пра адміністрацыйнае правапарушэнне. Падпісныя лісты забралі нібыта на экспертызу.

**5 кастрычніка** гарадзенскія праваабаронцы распачалі агульнабеларускую акцыю “Тыдзень супраць смяротнага пакарання”, абвешчаную Праваабарончым Цэнтрам “Вясна”. Беларусь адзіная ў Еўропе краіна, дзе практыкуюць смяротнае пакаранне. Таму гэтая тэма для праваабаронцаў вельмі актуальная. Вельмі важным ёсць не толькі штодзённая праца ў гэтым кірунку, але і такія масавыя публічныя акцыі, якія абвастраюць у свядомасці грамадства тэму забойства чалавека дзяржавай.

**7 кастрычніка** ў Гародні ў раённым судзе працягнуўся разгляд адміністрацыйнай справы журналіста-фрылансера Андрэя Мялешкі. Суддзя Ганна Лявусік не ўзяла пад увагу ні парушэнні і юрыдычную непісьменнасць з боку міліцыі, ні поўную адсутнасць доказаў віны Андрэя Мялешкі, ні неадпаведнасць адміністрацыйнага артыкулу сутнасці рэчаў і пакарала незалежнага журналіста адміністрацыйным штрафам – 35 базавых велічыняў.

**8 кастрычніка** гарадзенскія незалежныя журналісты напісалі адкрыты зварот да Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь Аляксандра Канюка. У ім сябры Беларускай Асацыяцыі журналістаў звяртаюць увагу на сістэмны незаконны пераслед журналістаў-фрылансераў з боку міліцыі і судовай сістэмы. Два дзесяткі журналістаў патрабуюць, каб адміністрацыйны пераслед журналістаў за прафесійную дзейнасць быў спынены. Журналісты накіравалі таксама аналагічны зварот у абласную пракуратуру.

***Вольга Крапоціна з Гародні атрымала фармальны адказ на свой зварот з упраўлення ўнутраных спраў аблвыканкаму. У ім гаворыцца, што забраная ў яе міліцыяй 19 верасня друкаваная прадукцыя накіравана на экспертызу, справа пра адміністрацыйнае правапарушэнне пакуль прыпыненая. Аднак, пра забраны ноўт-бук нічога не гаворыцца.***

**23 кастрычніка** ў Гародні затрыманы пісьменнік Віктар Марціновіч падчас прэзентацыі свойго новага раману “Мова”. Прэзентацыя была наладжана ў Парафіяльным цэнтры парафіі Маці Божай Фацімскай. У будынку прысутнічалі прадстаўнікі гарвыканкама, МЧС, супрацоўнікі КДБ. У выніку былі складзены пратаколы апытанняў на грэка-каталіцкага святара айца Андрэя Крата, на Міраслава Лазоўскага, прадстаўніка выдавецтва “Беларускі кнігазбор”, і на Віктара Марціновіча.



***Гарадзенскія журналісты атрымалі адказы з абедзвюх пракуратураў, куды дасылалі свой зварот. Два дзесяткі гарадзенскіх сябраў БАЖ высылалі лісты ў Генеральную і Гарадзенскую абласную пракуратуры, у якіх звярталі ўвагу на недапушчальнасць пераследу журналістаў-фрылансераў за прафесійную дзейнасць. У лісце прыводзіліся факты пераследу журналістаў з Гарадзеншчыны за супрацу з Беларускім Радыё Рацыя і тэлеканалам Белсат. Першай журналістам адказала Генеральная пракуратура Рэспублікі за подпісам яе прадстаўніцы Марыі Паповай, начальніка аддзелу па нагляду за захаваннем правоў і свабод грамадзянаў. У гэтым адказе Генеральная пракуратура прапаноўвае тым журналістам, якія былі аштрафаваныя самастойна звяртацца паводле заканадаўства ў пракуратуру і суды вышэйшай інстанцыі. Пры тым чыноўніца сцвярджае, што заканадаўства Беларусі не супярэчыць артыкулу 19 Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах і таму зварот журналістаў неабгрунтаваны.***

Журналісты атрымалі афіцыйны адказ і з абласной пракуратуры. У ім за подпісам намесніка пракурора вобласці Святланы Рахман практычна дублюецца адказ Генеральнай пракуратуры. Гарадзенскія сябры БАЖ расцэньваюць такія адказы як фактычнае ўхіленне пракуратураў ад забеспячэння іх права на прафесійную журналісцкую дзейнасць.

**Разгляд касацыйнай скаргі журналіста-фрылансера Андрэя Мялешкі ў Гарадзенскім абласным судзе скончыўся прадказальна. Нягледзячы на ўсе довады аштрафаванага і аргументы ягонага адваката, суддзя Святлана Даўгашэй падтрымала рашэнне Гарадзенскага раённага суду.**

# З песні слова...

***Цяпер хіба што ўсе, нават завершаныя скептыкі канчаткова ўцямілі, што спорт гэта вялікая сіла. Пасля таго як сацыяльныя сеткі літаральна ўзарваліся пастамі пра футбольны матч паміж зборнымі Беларусі і Украіны, у гэтым не засталося аніякіх сумневаў. Хоць наўрад ці яшчэ якая іншая спартовая падзея ўзбудзіла б такую цікавасць да сябе. Нават пампезнае адкрыццё сочынскай алімпіяды і яе не менш скандальнае правядзенне не выклікалі такога ажыятажу. Але не сама гульня стала падзеяй нумар адзін. Шматмільённую аўдыторыю сацыяльных сетак узбударажыла не тое, што рабілася на гульбавым полі, а тое, што адбывалася на трыбунах. А там беларускія і ўкраінскія футбольныя фаны разам скандавалі лозунгі “Слава Украіне!” і “Жыве Беларусь!”, разам спявалі знакаміты хіт “Ляпісаў” “Воіны святла”, і не менш знакамітую песню адрасаваную кіраўніку Расійскай Федэрацыі.***

Фанаты не біліся, як гэта звычайна бывае, а браталіся. Хоць, калі меркаваць па колькасці затрыманых футбольных заўзятараў супрацоўнікамі міліцыі, у гэта верыцца цяжанька. Здавалася б, калі людзі не таўкуць адзін другога па мардасах, а шчыра абдымаюцца і па-братэрску цешацца сустрэчай, іх затрымліваць няма за што. Але знайшлі. Форма абвінавачвання да зубнога болю нудная, зацёртая і традыцыйная для беларускай рэальнасці. За што яшчэ затрымліваць людзей, якія нічога кепскага не робяць, як не за нецэнзурную лаянку. У нас і нямога могуць за гэта затрымаць. Але гэтым разам, калі пакласці руку на сэрца і быць да канца шчырым, то сілавікоў сапраўды нельга звінаваціць у падтасоўцы фактаў і кламстве. Была нецэнзурная лаянка. Акурат у тым самым знакамітым хіце пра расійскага кіраўніка. Хоць і міліцыя і суды маглі б больш мякка паставіцца да гэтага факту. Усе ж ведаюць старадаўнюю мудрасць, што з песні слова то не выкінеш.

У суды павалаклі ўсіх без разбору. І украінцаў і беларусаў. Каго пакаралі штрафам, каго суткамі, чым яшчэ больш узмацнілі і так беспрэцэдэнтную актыўнасць сацыяльных сетак на гэтую тэму. Не ведаю, якую сілавікі ставілі мэту перад сабой, але вынік стаў такі, што калі хто і не ведаў словы той нескладанай песенькі на памяць, то зараз дакладна вывучыў. Як і хіт “Ляпісаў”. Ну а гучнымі лозунгамі “Слава Украіне!” і “Жыве Беларусь!” зараз не толькі пачынаюцца пасты ў сецыве, але і вусная гаворка на вуліцы.




Да гэтага матчу праўдападобна рыхтаваліся даўно і ўсе. І не толькі сілавікі, якія і не ўсіх ахвочых украінцаў пусцілі ў Беларусь, і чые дзеянні у дзень матчу, скажам мякка, не паспрыялі той атмасферы сяброўства, братэрства і еднасці паміж украінскімі і беларускімі фанамі. Хоць апошнія ўсядно змаглі даказаць, што украінцы і беларусы па-сапраўднаму лічаць адзін другога братамі і гатовыя пры патрэбе падтрымаць суседзяў у цяжкую хвіліну чым могуць. Рыхтаваліся да сустрэчы і самы заўзятары футболу. Беларускія падрыхтавалі бел-чырвона-белыя і жоўта-блакітныя стужкі пераплеценыя паміж сабой. Украінцы, як знак памяці і ўдзячнасці беларусам, прывезлі вялікі партрэт Міхаіла Жызнеўскага, беларуса, што ўвайшоў у Нябесную сотню, аддаўшы сваё жыццё на Майдане за Вольнасць Украіны…

Майдан тады не толькі выстаяў, але і перамог. На вялікі жаль кроў ва Украіне не перастала ліцца. І ніхто не ўстане нават спрагназаваць – што там будзе далей. Мінскія мірныя дамоўленасці хоць і не да канца парушаюцца, але ж усядно вісяць на валаску. Правакатары рапаўсюджваюць сярод некаторых колаў насельніцтва думку, што няма чаканых вынікаў Майдану.

Але вынікі ёсць. Ужо ёсць. І нават гэты футбольны матч гэта падцвердзіў. Сам прэзідэнт Украіны Пятро Парашэнка зацікавіўся лёсам затрыманых украінскіх фанатаў і аддаў загад МІДу зрабіць усё дзеля хутчэйшага вызвалення затрыманых у Беларусі грамадзянаў Украіны. Пасол Украіны паехаў гэтым займацца яшчэ да гэтага загаду. Лёсам жа затрыманых беларускіх аматараў футболу з высокапастаўленых дзяржаўных мужоў Беларусі не зацікавіўся ніхто. І тут таксама, як гаворыцца, з песні слоў не выкінеш.

***Віктар Сазонаў***

# Каляндар памятных і круглых датаў Гарадзеншчыны на лістапад 2014 году

**1 лістапада**

У лацінскім абрадзе сьвята Усіх Сьвятых.

30 гадоў таму (1984) – Памёр Пётра Сергіевіч, беларускі мастак. На Гарадзеншчыне расьпісаў касьцёлы ў Жодзішках, Солах (Смургонскі р-н), Поразаве (Сьвіслацкі р-н).

**2 лістапада**

Дзяды, дзень паміналньня памерлых.

145 гадоў таму (1869) – У маёнтку Крупляны (Наваградзкі р-н) нарадзіўся Язэп Стаброўскі, беларускі археолаг, краязнавец.

55 гадоў таму (1959) – Памёр Аляксандар Орса, беларускі педагог, доктар прыродазнаўства, дзеяч беларускай эміграцыі (Нямеччына, ЗША). выкладаў прыродазнаўства ў Наваградскай беларускай гімназіі. Нараджэнец мяст. Нягневічы (Наваградзкі р-н).



**3 лістапада**

335 гадоў таму (1679) – Памёр Аляксандар Палубінскі, ваенны дзеяч ВКЛ, слонімскі падкаморы, ваўкавыскі і слонімскі стараста.

**4 лістапада**

220 гадоў таму (1794) – Пры абароне прадмесьця Варшавы Прагі загінуў Якуб Ясінскі, вайсковы і палітычны дзеяч, інжынер, паэт, адзін з кіраўнікоў паўстаньня 1794. Пахаваны пры варшаўскім касьцёле “На Камёнку”.

**5 лістапада**

15 гадоў таму (1999) – Памёр Уладзімер Сідлярэвіч, дзеяч БКА, беларускай эміграцыі (Нямеччына, Аўстралія). Вучыўся ў Лідзе, працаваў настаўнікам у Васілішках. Пахаваны ў Мэльбурне.

**6 лістапада**

325 гадоў таму (1689) – У Дзярэчыне нарадзіўся Антоні Казімер Сапега, дзяржаўны дзеяч ВКЛ.

**8 лістапада**

230 гадоў таму (1784) – У маёнтку Шаўры (Вараноўскі р-н) нарадзіўся Тодар Нарбут, гісторык, археолаг, краязнавец.

**12 лістапада**

220 гадоў таму (1794 па водле іншых зьвестак 1796) – У в. Гожна (?, Беласточчына) нарадзіўся Міхал Рукевіч, удзельнік вызвольнага руху, філамат. На пач. 1820-ых жыў у Мількаўшчыне (Гарадзенскі р-н).

**13 лістапада**

25 гадоў таму (1989) – У Менску памёр Фёдар Янкоўскі, беларускі мовазнавец. Пахаваны на Усходніх могілках. Жыў і працаваў у Гародні.

**14 лістапада**

75 гадоў таму (1939) – Заходняя Беларусь была афіцыйна ўлучаная ў склад БССР.

**16 лістапада**

Дзень Маці Божай Вострабрамскай – апякункі Беларусі.

**19 лістапада**

230 гадоў таму (1784 ці 1785) – У вёсцы Вулька (Бельскі пав., Беласточчына) нарадзіўся Міхал Баброўскі, беларускі вучоны-славіст. У 1824-26 працаваў у Жыровічах.

**23 лістапада**

190 гадоў таму (1824) – У Рыме нарадзіўся Баляслаў Русецкі, мастак, які працаваў на Беларусі. Адзін час жыў у Гародні, зрабіў шэраг размалёвак у гарадзенскіх касьцёлах, алтарную карціну “Сьвяты Казімір” у гарадзенскай фары.

**25 лістапада**

300 гадоў таму (1714) – У маёнтку Дзятлава (Дзятлаўскі р-н) нарадзіўся Тамаш Жаброўскі беларускі асьветнік, архітэктар, астраном, матэматык.

**26 лістапада**

150 гадоў таму (1864) – Памёр Тодар Нарбут, гісторык, археолаг, краязнавец. Пахаваны ў в. Нача (Вараноўскі р-н).

125 гадоў таму (1889 ці 1891) – На Віленшчыне нарадзіўся Вацлаў Раманоўскі, беларускі рымска-каталіцкі сьвятар. У 1922-36 служыў пробашчам у Германішках (Вараноўскі р-н). Памёр ці згінуў пасьля 1939 г.

**27 лістапада**

25 гадоў таму (1989) – Памёр Кастусь Станкевіч (нар. у 1925 у мяст. Турэц, Карэліцкі р-н), дзеяч беларускай эміграцыі (Аўстралія).

**29 лістапада**

65 гадоў таму (1949) – У савецкім канцлягеры пад Тайшэтам забіты Адам Станкевіч (паводле інш. зьв. 4 сьнеж.), беларускі рымска-каталіцкі сьвятар, грамадзка-культурны дзеяч, асьветнік, культуролаг, выдавец, публіцыст. Нараджэнец в. Арляняты (Смургонскі р-н). Пахаваны на могілках Азярлага каля в. Шаўчэнкі.

**30 лістапада**

25 гадоў таму (1989) – У Гародні прайшла ўстаноўчая канферэнцыя Гарадзенскага гарадзкога аддзяленьня Таварыства Беларускай Мовы імя Францішка Скарыны.

Гарадзенскі праваабарончы
інфармацыйна-аналітычны
бюлетэнь «Прэзумпцыя»
выходзіць 1 раз у месяц
наклад 299 асобнікаў
для нутранога карыстаньня

падрыхтаваны да друку:
кастрычнік 2014
e-mail:prezumpcyja@gmail.com
распаўсюджваецца задарма
пры передруку спасылка
абавязковая

